№ 68. 6 кастрычніка 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції:
М. Стэфанская 23.



## Адступленьне румыноу.

### 5 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На полі бітвы на поўначы ад Соммы сільны агонь артылеры перад пачаткам пешых штурмоў дайшоў найвялікшай заядласьці. У большай часьці пунктоў прыгатаваная да штурму пяхота ворагоў была зьніштожэна ўжо нашым агнём. Гэтак між хутарам Мукэ і Курсэлет англіцкі штурм быў зусім зломлен. Між Курсэлет і Окур-л'Аббэ штурмаваўшые ворагі дайшлі да нашых пазыцій толькі пры Лесар, гдзе англіцкая пяхота, маючы цяжкіе страты, была нашай пяхотай адкінута штыкамі. Гетак сама адкінут францускі штурм уздоўж лініі Ранкур—Бушавэнь. Між Фрэжікур і Ранкур учора раніцай ішла вострая бітва. Тут мы утрацілі паадзінокіе акопы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Наабапол Маасу вострые артылерыйскіе бітвы.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На фронці Стохода—некольні дарэмных атак слабых атрадоў ворагоў. На заходзі ад Луцка расейцы ўсё паўтаралі свае заядлые атакі. Яны нічога не дайшлі. Кожын раз хвалі атакаваўшых разбіваліся агнём артылеры, пяхоты і кулемётоў. Толькі на поўначы ад Зубільна слабые атрады дайшлі да нашых пазыцій, але былі адтуль ураз-жэ выкінуты назад.

Нашы лятуны, каторые і тые дні удачнымі налётамі на таборы, пазыції рэзэрвоў і жалезнадарожные будоўлі рабілі ворагам шкоды, скінулі многа бомб на станцію Рожышчэ і суседніе этапные будоўлі і падпалілі іх.

*Фронт у Семіградзіі:* На заходзі ад Парайд адбіты некольні румынскіх атак. Наступаўшая ешчэ 2 кастрычніка ў ваколіцах Пекоктэн другая румынская армія адступіла ў даліне Альт за Сінцу і адступае на поўначы. Пасьля дарэмных, крывавых спроб у гарах Гэтсінга, наабапол даліны Стрэль, ворагі адступаюць на пагранічные вяршыны. Пры Орсове, на Дунаю, наступленьне румыноў было удачнае.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Атакі ворагоў на ўсходзі ад чыгункі Кара-Орман--Кабадіну былі 2 кастрычніка адбіты.

*Македонскі фронт:* На вяршыне Нідзэ Планіна ворагі дзержацца. У далейшай бітве на левым беразі Струмы ізноў утрачэна віоска Енікей.

Людэндорфф.

**Страты англічан.**

ЛОНДОН. «Daily Telegraph» піша, што ад 1 ліпня, значыць, ад пачатку наступленьня на Сомме, да канца верэсьня англіцкіе страты дайшлі **17.167** афіцэроў і **288.878** салдатоў.

**Крызіс у Грэціі.**

АФІНЫ. Кароль радзіўся з некаторымі гасударственымі мужамі аб улажэньні новаго габінэту.

Караля віншавалі 83 афіцэры, каторые вярнуліся с Крыта, адмовіўшыся ісьці разам з Вэнізэлёсам.

## З апошніх дзён.

—s—

### Нямецкіе апавешчэньня.

**3.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго:* Недалёка ад берагу мора нашы матросы ўзялі ў палон 22 французоў.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Баталія на поўначы ад Соммы трывала далей; агонь артылеры быў страшэнны. Пры Тіэпваль і Курсэлет мы адабралі ад англічан некольні часьцей акопаў і здабылі некольні кулемётоў. Асабліва вострая бітва ішла між Лессар і дарогай Тілюа — Флер. Англічане акупілі тут незначные удачы незвычайна цяжкімі ахвярамі. Між Гэдэкур і Морваль наша артылерыя, адбіўшы чатыры штурмы, не пазволіла пяхоці ворагоў ісьці ізноў у атаку. Сільные францускіе штурмы каля дарогі Сайі—Ранкур і ў лесі Сан-П'ер-Васт дайшлі мейсцамі да нашай пярэдняй лініі. У бітве на штыкі яна ізноў была ачышчэна ад ворагоў.

На палудні ад Соммы артылерыйская бітва на абапол Вэрмандовільле была вельмі вострая. Спроба французоў штурмаваць была задушэна зашчытным агнём.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Генэрал Лінсінгэн даносіць:

„Спадзеваны агульны штурм на заходзі ад Луцка пачаўся сягоньня пасьля незвычайна сільнай артылерыйскай падгатоўкі. Расейскіе корпусы штурмавалі да 12 разоў, а абодвы корпусы гвардіі—да 17 разоў. Разбіты нідаўна пры Корытніцы 4 сібірскі корпус не паказваўся на лініі ворагоў. Усе штурмы адбіты з незвычайна сур'ёзнымі крывавымі стратамі. Не раз расейская артылерыя абстрэлівала свае акопы, гонячы сваё войско на штурм, і старалася прымусіць хвалі ўцякаўшых ісьці ізноў упярод. Даведзено, што ворагі, момэнтамі ўрываючыся ў нашы акопы, дабівалі аставаўшыхся тамака нашых раненых".

Удача контратакі пры Грабёнцы ешчэ узрасла. Узяты 41 афіцэр, 2578 салдатоў і 13 кулемётоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* У часі штурмоў на ўсходнім беразі Залатой Ліпы расейцам удалося дайсьці да вяршыны Лісонія. Контратакай яны былі адкінуты назад.

*Семіградзкі фронт:* На поўначы ад Фогарас нашае войско сустрэлося с перэважываючымі румынскімі сілами і адыйшло назад. У гарах Гэтсінга атакі ворагоў адбіты.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* З заду за перайшоўшымі Дунай на палудні ад Букарэшту румынамі аўстрыяцкіе моніторы зруйнавалі понтонные масты. Атакаваўшые на шырокім фронці Кобадіну — Топраіссар — Тузла ворагі адкінуты, страціўшы 100 палонных.

*Македонскі фронт:* Атакі проці перайшоўшых цераз Струму англічан ідуць удачна.

**4.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На баевым фронці на поўначы ад Соммы бітва артылеры ўсё болей узмацоўываецца на адрэзку Морваль—Бушавэнь. Сільные атакі французоў проці нашых пазыцій на дарозі Сайі—Ранкур і ў лесі С.-П'ер-Васт адбіты, часьцю—штыкамі. Мы ўзялі 1 афіцэра, 120 салдатоў і 2 кулемёты. Англіцкіе атакі пры Тіэпваль і каля хутара Мукэ адбіты.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Пасьля таго, як атакі расейцоў пад Луцкам крывава былі зломлены, ворагі ізноў тут разгромлены. Мы не утрацілі тут ні пядзі зямлі. Трупы расейцоў ізноў лічаць тысячамі.

Паручык ф. Коссэль спусьціўся з аэропланам на палудзенным заходзі ад Роўна і, зруйнаваўшы ўзрывамі чыгунку ў некольніх мейсцох, вярнуўся праз 24 гадзіны назад.

*Семіградзкі фронт:* На заходзі ад Парайд румыны мелі удачу. Мы стаім перад Фогарас! На заходзі ад Кайнэні ішлі далейшые пасьля пабеды пры Гэрманштадці бітвы з раскіданымі румынскімі атрадамі. Атакі ворагоў у гарах Гэтсінга нічога не дайшлі. На заходзі ад вяршыны Обороца нашы саюзьнікі мелі удачу.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Абходные атакі нямецкіх і боўгарскіх войск прымусілі ўцякаць назад румынскае войска, каторае было перайшло цераз Дунай на палудні ад Букарэшту.

*Македонскі фронт:* Між возерам Прэсба і Ніцэ Планінай мы занялі новые пазыціі.

---

**1000 пагібшых лятуноў.**

ЛОНДОН. Паводлуг спіскоў страт, англічане ад пачатку вайны да 12 верэсьня утрацілі 1000 лятуноў.

**Страты італьянцоў.**

ЛЮГАНО. Да канца верэсьня італьянцы, паводлуг падрахунку італьянскіх газэт, утрацілі забітымі 5000 афіцэроў, у тым чысьле 11 генэралоў і 300 штабовых афіцэроў.

**Хаос у Грэціі.**

АФІНЫ. Габінэт, апрыч міністра-прэзыдэнта і міністра заграничных спраў, падаўся у адстаўку.

---

### Аўстрыяцкіе апавешчэньня.

**ВЕНА. 2 X. Усходні тэатр:**

Пры Орсове нашае войско адабрало ад ворагоў некольні вяршын, а пры Пэтросэнах—гару Обороца. Каля Вялікаго Коколя нашы пярэдніе атрады прымушэны былі адыйсьціся назад.

---

Гл. тэлеграмы на 4 страніцы.

# У Вільні і ваколіцах.

× **Справа арбітражу**, або угодлівай камэры дзеля разгляду спорак між кватэрантамі і гаспадарамі дамоў, хоць і памалу, ды пасоўваецца ўпярод. Нідаўна мы пісалі, што на праект арбітражу, пададзены саюзам кватэрантоў, пры́стаў і саюз дамаўласьнікоў. Цяпер мы даведаліся, што ўдалося удачна развязаць і вельмі труднае пытаньне аб выбары супэрарбітра: абодва саюзы зыйшліся на асобі б. прэзыдэнта места Вільні М. Вэнслаўскаго.

Будзем спадзевацца, што угодлівая камэра ускарасьці пачне сваю работу. Гэта тым больш пільная справа, што настали халады, а высяленьня з гаспод неакуратных бедакоў - кватэрантоў множацца што-раз болей.

× **Беларуская вечарынка**. Ня гледзячы на стараньня беларускаго музыкальна-драматычнаго Кружка, на апошняй, другой с чароду вечарынцы ў Беларускім Клюбе намечэны у праграмі хор, на вялікі жаль, ня мог выступіць: хор гэты лішне нідаўна наладжэн і, ня гледзячы на безупынные пробы, лічыў сябе не зусім падгатоўленым, каб выступіць ужо на гэтай вечарынцэ. Будзем спадзевацца, што у найбліжэйшым часе будзем мець магчымасць паслухаць нашы так дзіўна-пекные песьні народные у выпаўненьні хору.

Праграму вечарынкі запоўніла дэклямацыя і пеяньне (солё), каторые прашлі удачна. Пасьля артыстычнай часьці праграмы адбыліся скокі—танцы.

× **Вечар у Работніцкім Клюбе**, каторы адбыўся ў мінуўшую нядзелю, сабраў поўну салю народу. У праграмі вечэра, поруч з нумэрамі польскімі і літоўскімі, была вельмі пекная беларуская дэклямацыя, горача вітаная публікай. Дэкляматор гаварыў гэткіе знаёмые, а заўсёды жывые творы Мацея Бурачка і інш.

Гэтак беларуская дэклямацыя ў мінуўшую нядзелю была ў Вільні адразу ў трох мейсцах, бо, апрыч дэклямацыі ў Беларускім і Работніцкім клюбах, ў гэты дзень гаварыла беларускіе вершы адна с курсістак у часі раздачы атэстатоў на курсах для народных вучыцелёў пры народным унівэрсытэці імі Адама Міцкевіча.

× **Беларускі тэатр**. Беларуская драматычная дружына рупна працуе над падгатоўкай драмы «Хам», адбываючы частые пробы.

«Хам»—гэта пераробка повесьці слаўнай польскай пісьменніцы з нашаго Краю, Э. Ожэшковай, каторая з вялікай псыхолёгічнай праўдзівасьцю нарысавала абраз душы беларускаго хлебароба з яе бязмежнай дабратой і мэлянхоліей.

× **Даступпая гугіенічная страўня для жыдоўскай інтэлігенціі**. У панядзелак, 2 кастрычніка, у гасподзі жыдоўскай таннай страўні адбыўся організацыйны сход дзеля уладжэньня даступпай гыгіенічнай страўні для жыдоўскай інтэлігенціі. Сабралося больш за 500 душ. Пасьля вельмі жывых гутарак пастанавілі наладзіць страўню паводлуг прыкладу страўні „Гыгіена“ (пры Віленскай вул. 27). Выбран быў урад, зложэны з 8 членоў-устаноўцоў і па адным прэдстаўніку саюзоў вучыцелёў, студэнтоў, маладзежы і таргова-прамышленых служачых. Ураду сход загадаў парупіцца аткрыць страўню чым скарэй.

× **Новы саюз віленскіх комісьонероў і пасрэднікоў**. На агульным сходзі ў нядзелю, 1 кастрычніка, выбран урад саюза: Л. Розэнталь—маршалак, А. Чэрток—скарбнік, З. Гордон—пісар.

× **Агульна-работніцкі культурны саюз** пасьля нядоўгаго перарыву аткрыўся ізноў.

× **Ваенна-палонные жыды**. На просьбу жыдоўскаго рабіна Рубінштэйна ваенна-палонных жыдоў звольнілі ад работ у першые дні новагодніх жыдоўскіх сьвят і ім пазволілі хадзіць у местовые бажніцы.

× **Патрэбны муляры і будаўляные работнікі** ў Шаўлі на выгодных умовах. Умовы падае местовае бюро працы, Завальная 5.

× **Неудачны спосаб**. У апошніх часах у польскай газэці «Dz. Wil.» у хроніцэ чытаем акуратна спісы людзей, каторых „дзеля іх уласнаго інтэрэсу“ вызывае комэндантура местовай міліціі. Якіе гэтые інтэрэсы—мы ня ведаем, але нас вельмі дзівіць, што комэндантура міліціі пазваляе сабе друкаваць у газэці імёны вядомых і паважаных у горадзі людзей побоч з імёнамі часта мо' падазрыцельных і цёмных фігур. Гэты „спосаб“ можна было-бы зразумець, калі-б комэндантура міліціі ня ведала, дзе пражываюць вызываные асобы,—тым часам нам напэўна вядома, што яна дужа добра ведае, дзе жыве значная часць тых людзей.

Разам с тым дзіўна, што міліція абярнула „Dz. Wil.“ у свой „афіцыоз“, і гэтак прымушае ўсіх жыхароў места чытаць гэту, а но іншую газэту. У нашым горадзі, як вядома міліціі, жывуць людзі розных націй, і добрая палова насяленьня ня можэ чытаць газэты ў польскай мове, бо тэй мовы ня знае.

× **Сушыльні дзеля сушкі збожжа**, гародніны і т. д. аткрыты і будуюцца ў ніжэйпісаных мейсцох:

1. *Літва*: Ніжніе Шанцы (пад Коўнай), Поневеж, Губэрня, Вілкомір, Любоў.
2. *Курляндія*: Гольдінген, Лібава, Газэнпот.
3. *Вільня-Сувалкі*: Вільня, Щырвінты, Вілковішкі, Вержболово.
4. *Гродна*: Гродна, Ліда.
5. *Беласток*: Беласток, Воўкавыск.

× **Ураджай падсоўнечнікоў**. У гэтым часі падсоўнечнікі надта абіраюць птушкі. С прычыны таго, што алей с падсоўнечнікоў—вельмі цэнны, галоўкі падсоўнечнікоў трэба абвязываць лёгкай тканьню, каторая прапускала-бы паветрэ і праменьні сонца.

× **Ячмень для кур**. У малых мерах прадаецца ячмень для кур, паказаўшы пашпарт Обэр-Ост, пры Домініканскай вул. 3, пакой 64.

× **Найвышэйшые цэны**. (Апавешчэньне). За бульбу ад 1 кастрычніка да далейшай змены назначаецца найвышэйшая цэна 5,70 м. за цэнтнэр (3 пуды).

Найвышэйшые цэны за мыло, соду, мыльны парашок і сьвечы касуюцца.

Гэтае апавешчэньне мае сілу ўраз-жэ.

Вільна, 2 кастрычніка 1916 г.
Stadthauptmann
з. м. **Pilz**.

× **Аб убою скаціны**. Ешчэ раз напамінаецца, што біць скаціну дома забаронено. На моцы прыказу Граданачальніка з 10 марца і Начальніка Упраўленьня з 26 чэрвеня рэзаць скаціну можна толькі ў местовай бойні.

× **Скорая помач**. Ад 25 верэсьня да 1 кастрычніка скорая помач дадзена ў 71 прыпадку. Ў тым ліку карэтка скорай помачы выежджала 28 разоў.

× **Карантін для сабак** прадоўжэн да 31 сьнежня гэтаго году.

× **Знаганьне з заразай**. (Апавешчэньне). Каб недапусьціць пашырэньня заразьлівых хвароб, выдаецца у дадатку да загадоў прыказоў з 18. IV. 16 і 19. VIII. 16 ніжэйпісаны загад:

1. Гаспадары дамоў, або іх упоўнамочэные павінны перамешываць з вапенным млекам кал у ямах за тры дні да вывазу яго, лічучы на 1 куб. м. калу 10 літроў вапеннаго млека. Вапеннае млеко с калам трэба добра перэмешаць.

2. За нарушэньне гэтаго загаду карацімуць паводлуг § 10 загаду Глаўнакамандуючаго на Усходзі аб способах недапушчэньня пашырэньня небаспечных для ўсіх хвароб.

Вільна, 2 кастрычніка 1916.
Stadthauptmann
з. м. **Pilz**.

× **Курс рубля**: офіцыальны — 1 м. 90 ф. Пры куплі ў банках — 1 м. 96 ф.; пры прадажы — 1 м. 92 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Сумные праявы**. Хроніка прыпадкоў узбагацілася новым аддзелам: неяк лішне часта прыносяць нам весткі аб знойдзеных падкідышах, або, што ешчэ больш сумна, аб знойдзеных дзіцячых трупах. Гэтак, у аўторак нас паведамілі аб двох прыпадках: на I Портовай вул., каля дому № 4, знайшлі падкінутаго 2-месячнаго хлопчыка; ў доме № 23 пры I Радунскай вул. ў яме атходжаго мейсца знойдзен труп толькі-што нарадзіўшагося дзіцяці.

Гэтак сама узрастае чысло зладзейств. Рэдкі дзень праходзіць без пратаколу а кражы. Напрыклад, 2 кастрычніка абакралі кватэру А. Парамонавай, Шкаплерная 19, а ў той жэ дзень зладзеі „абчысьцілі“ склеп Р. Мочульскаго—ў самым цэнтры места (Ягелёнская 5).

# БІБЛІОГРАФІЯ.

„**Pieršaja Čytanka**“, knižyca dla biełaruskich dzietak dziela nawuki čytańnia. Złažyu W. Łast. Wilnia. 1916.

Як паказвае загаловак, кніжка гэта назначэна для беларускай школы народнай і павінна запоўніць даўно ўжо выявіўшуюся недахватку добраго лемэнтара і першай чытанкі для дзяцей. Кніжка назначэна для наймалодшых дзяцей—каторые яшчэ ня знаюць літэр, але матэр'ялу да чытаньня хваце, бадай, для двох першых гадоў навукі.

Уложэна добра. Матэр'ял падобран цікавы для дзяцей і разложэн сыстэматычна. Яе сьмела можна радзіць да ужытку ў беларускіх пачатковых школах.

У Вільні мае кніжку на складзі „Беларуская Кнігарня“ (Завальная 7).

× **Апавешчэньне**. За умысны падпал, асабліваж за падпал запасоў ураджаю, за прызыў і падбіваньне на падпал, па загаду Глаўнакамандуючаго на Усходзі з дня 26.XI.15, карацімуць сьмерцю або цяжкімі карамі у папраўчым доме. Хто перашкодзіць у падпале, або данясе аб праекці падпалу, і ліхадзей будзе злоўлен,—таму дадуць назначаную Начальнікам Упраўленьня награду ня менш 200 марак.

Вільна, 3 кастрычніка 1916 г.
Начальнік Упраўленьня
Вільна—Сувалкі
**Граф Yorck von Wartenburg**.
Маёр.

# З усяго Краю.

**Вывоз работнікоў.**

БЕЛАСТОК. Адгэтуль ізноў высланы некалькі партій фабрычных работнікоў, слесароў і інш. у Нямеччыну.

За месяц верэсень работнікі прыслалі з Нямеччыны ў Беласток 4.500 марак.

**Падрабляньне прадуктоў.**

БЕЛАСТОК. С прычыны таго, што ў апошніх часах заўважэно падрабляньне спажыўных прадуктоў і асабліва малака, адбываюцца неўспадзеўкі праверкі і аналізы. Як вядома, за падрабляньне назначаюцца цяжкіе кары.

**На рынку.**

ГАРОДНЯ. Каля крам з рыбай зроблены краты, і ў сярэдзіну пускаюць зразу толькі па некалькі душ.

**Дзеля чыстасьці.**

СУВАЛКІ. Тут, а так сама ў Віжайнах, Філіпове, Бакаларжэве і Сідорах аткрыты пункты дзеля нішчэньня вошы. У Сувалках туды вадзілі ўсіх дзяцей з народных школ. Для дзяцей, асабліва для хлапцоў гэта было праўдзівае школьнае сьвято, злучыўшае прыемнае с карысным.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

**Левы акцябрыст—міністрам.**

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Маршалак шляхты сымбірскай губэрні, Протопопов, царскім указам назначэн міністрам унутрэных спраў на мейсцо Хвостова. Протопопов—віцэ-маршалак Думы.

БЭРЛІН «Германія» асьцерэгае ад надзеі, бытцым змена міністра вызаве перамену ваеннай палітыкі Расеі. Міністэрство ўнутрэных спраў мае найменш вагі у справі за ці проці вайны. Цяперашняе назначэньне Протопопова тлумачаць экономічнымі труднасьцямі. Відаць, прызнано патрэбным зрабіць націск на настраеньне народу, прызываючы дэпутата на мейсцо міністра.

ШТОКГОЛЬМ. Ждуць далейшых перамен у расейскім габінэці міністроў і паваpоту назад Крівошэіна.

БЭРЛІН. За насьледніка Штырмэра, як міністра загранічных спраў, лічаць не Гірса, а Шэбэко.

**Казённае выдавецтво.**

ШТОКГОЛЬМ. Газэтнае выдавецтво «Прэсса», наладжэнае міністрам унутрэных дзел, Протопоповым, зацьверджэно радай міністроў. Аднак, фірма прымушэна была ўпісаць у свой статут, што жыды могуць мець толькі меншую часць акцій. Правіцельство тлумачыць гэтае жаданьне патрэбай агранічыць уплыў жыдоў на прэссу.

**Трэба больш паліціі.**

ШТОКГОЛЬМ. Расейскае міністэрство унутрэных спраў падало праект павялічыць чысло паліціі, тлумачучы гэта справамі кармленьня народу. Асабліваж патрэбно гэта на час пасьля вайны, каб, распусьціўшы запасных, тушыць народные бунты.

**Шукаюць «мудрай рады».**

ШТОКГОЛЬМ. Міністэр фінансоў, Барк, аддаў другім урадам пададзеные яму прыватнымі асобамі з розных кругоў насяленьня, селянамі, купцамі, рамесьнікамі, духоўнымі, работнікамі, студэнтамі і дактарамі праекты, як палепшыць гасударственые фінансы. 76 праектоў маюць на мэці павялічыць простые падаткі, 28—пасрэдніе налогі, 24 радзяць з грунту перастроіць гасударственую падатковую сыстэму, 44—завясьці новые монополіі, між іншым на збожжэ, соль, мыло, аліву на вечные лампады перад сьвятымі іконамі, на піво, мясо, школьные кніжкі і каеты, конвэрты, атрамэнт, календары, карты, клюбы, кінэматографы, лётаньне на паветры, аптэчные тавары і монополію вэкслёваго крэ-

